№ 61 (3904)

8 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭНДЭНЦЫІ

## *Кожную дзясятую кватэру ў Мінску купляе расіянін*

Штогод грамадзяне Расіі купляюць у Мінску больш за тысячу кватэр — гэта амаль 10% ад агульнай колькасці здзелак на другасным рынку нерухомасці беларускай сталіцы. Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, у Мінску кожны год здзяйсняецца ад 10 да 13 тысяч здзелак.

Так, з 2008-га па 2013 год уключна на другасным рынку куплі-продажу жылля ў Мінску было здзейснена 67.920 здзелак, з іх здзелак з пакупнікамі — грамадзянамі Расійскай Федэрацыі — 6,2 тысячы, што складае 9,1%.

Расіяне з'яўляюцца найбольш актыўнымі замежнымі пакупнікамі жылля ў беларускай сталіцы — на іх долю прыпадае больш за 73,6% ад усіх здзелак з замежнымі пакупнікамі.

НАДВОР'Е

## *У выхадныя — навальніцы*

У бліжэйшыя дні цёплае надвор'е ў Беларусі захаваецца. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +12...+18°С, максімальная днём +27...+32°С. Але спякота будзе суправаджацца дажджамі.

**9 жніўня** месцамі, пераважна па заходняй палове, пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ноччу +12...+19°С, днём ад +24°С па захадзе да +32°С па паўднёвым усходзе.

**10 жніўня** месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ноччу +10...+17°С, днём +24...+30°С.

ВОСТРЫ ПОГЛЯД

# Як і 500 гадоў таму

## Беларусь зноў стаіць перад гістарычным выклікам. Як адкажам?

**Алена АНІСІМ,
Алег ТРУСАЎ,
грамадзяне
Рэспублікі Беларусь**

У ліпені 1944 года скончыліся ваенныя дзеянні на беларускай зямлі. А сто гадоў таму да нас дакацілася Першая сусветная вайна, якая сталася для беларусаў нацыянальнай катастрофай. Старыя людзі, якія перажылі дзве сусветныя вайны, тры рэвалюцыі і савецка-польскую вайну, прыйшлі да высновы, што ўсё ў жыцці можна сцярпець, абы не было вайны. І яны разумелі, што казалі, бо выжыць падчас ваенных дзеянняў на нашай зямлі было вельмі праблематычна.

І вось упершыню за 500 гадоў ужо 70 гадоў на нашай зямлі мір. Такое было толькі ў XV стагоддзі, пасля Грунвальдскай бітвы, калі наша дзяржава ВКЛ лічылася адной з самых вялікіх краін Еўропы. Але неўзабаве з'явіўся канкурэнт на Усходзе, прамы нашчадак Залатой Арды, і пачаліся шматлікія войны, кроў, гвалт і рабункі. Наша перамога пад Оршай 500 гадоў таму часова спыніла агрэсара, але ў XVIII стагоддзі яму разам з хціўымі суседзямі ўдалося тройчы падзяліць нашу краіну і зрабіць нас бяспраўнай калоніяй, дзе нашых сялян прадавалі, як быдла на кірмашах, ці пажыццёва забіралі ў рэкруты ў варожае войска.

Беларусы ўмелі заўсёды добра ваяваць і таму заўжды былі гарматным мясам спачатку Расійскай імперыі, а потым і СССР. Невыпадкова, што Полацкі мушкетны полк браў Ізмаіл, Менскі пяхотны полк — Шыпку, а Віцебская дэсантная дывізія — Кабул.

І вось нарэшце 70 гадоў міру на нашай зямлі, а распад СССР у Белавежскай пушчы прынёс нам доўгачаканую незалежнасць, абвешчаную яшчэ 25 сакавіка 1918 года. Зараз без вайны жыве ўжо трэцяе пакаленне беларусаў, якое нарадзілася ў незалежнай Беларусі. Праз некалькі гадоў ім будзе 25 гадоў — роўна тры пакаленні, што жывуць без вайны.

Але ў гэтым годзе сітуацыя ў свеце пасля акупацыі Расіяй Крыма кардынальна змянілася, і вайна зноў стаіць ля нашага парога. Ва Украіне ўжо гінуць беларусы, а некаторыя нават страляюць адзін у аднаго пад Данецкам і Луганскам. Значная частка грамадзян Беларусі падпала пад уплыў расійскіх тэлеканалаў, слепа верыць усяму, што там гавораць. Яны чапляюць на вопратку і машыны георгіеўскія стужкі, ахвотна бяруць сцяжкі з расійскай сімволікай, а сваіх беларускамоўных суайчыннікаў называюць бандэраўцамі. Беларускія ўлады, якія на рэферэндуме 1995 года прамянялі нашу мову і гістарычную сімволіку на танныя расійскія газ і нафту, зараз знаходзяцца ў разгубленасці, як і іншыя суседзі Расіі. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. 30 ліпеня ў дадатку да газеты "Звязда" "Союз-Евразия" зрабілі аналіз на тэму "Каким будет мир после украинского кризиса". Юрый Крупноў, расійскі эксперт, лічыць, што *"Расія фактычна знаходзіцца ў стане вайны. Яна можа гэта прызнаць ці не прызнаць, але не можа адмяніць".* Ён таксама прапануе, каб Расія прызнала існаванне Данецкай і Луганскай народных рэспублік.

Мурат Лаўмулін (Казахстан) лічыць галоўнай пагрозай для краін Цэнтральнай Азіі *"адсутнасць механізму пераемнасці ўлады, катастрафічнае знішчэнне эфектыўнасці кіравання і фактычную недзеяздольнасць практычна ўсіх уладных інстытутаў".* Такія высновы, на нашу думку, можна аднесці і да Беларусі.

Беларускі аналітык Андрэй Шуман лічыць, што *"Масква таксама вырашае парушыць статус-кво — ужо са свайго боку. І акупіруе Крым, тэрыторыю дружалюбнай дзяржавы. Тры месяцы ідзе самая сапраўдная грамадзянская вайна на тэрыторыі Данбаса, на якой жыве каля сямі мільёнаў украінцаў".*

Прадстаўнік Таджыкістана Гузель Майтдзінава паведамляе, што *"Кітай лічыць, што Ялцінска-Патсдамская структура міжнародных адносін разбурылася, у чым немалую ролю адыграў "крымскі прэцэдэнт", і ідзе актыўна працэс трансфармацыі еўразійскай прасторы". "Адначасова Кітай гаворыць пра тое, што постсавецкая эпоха скончылася і цяпер Паднябесная мае ўсе правы для экспансіі ў рэгіёне".*

Усе гэтыя выказванні належаць не лідарам беларускай апазіцыі, а прадстаўнікам зусім іншага лагера. Сітуацыя ў Беларусі можа рэзка змяніцца падчас прэзідэнцкіх выбараў, якія мусяць адбыцца ў наступным годзе.

Дарэчы, у гэтым годзе споўнілася роўна 20 гадоў праўлення ў Беларусі аднаго чалавека, прозвішча якога мы называць не будзем. Партал TUT.BY у ліпені 2014 года прааналізаваў яго дзейнасць і склаў спіс асноўных (10) поспехаў і (10) паразаў. Мы не будзем іх пералічваць, але можам адзначыць, што дзякуючы 70-гадоваму мірнаму перыяду і 23 гадам незалежнасці грамадзяне Беларусі сталі жыць значна лепей, чым за апошнія 200 гадоў. Яны забыліся пра голад і холад, маюць вольны выезд за мяжу, не служаць у чужым войску, маюць магчымасць працаваць як дома, так і за мяжою, але чамусьці іх колькасць з 10 мільёнаў 227 тысяч чалавек (1994 год) скарацілася ў красавіку 2014 года да 9 мільёнаў 467 тысяч чалавек. Страты склалі 760 тысяч. І гэта ў мірны час.

Вайны няма, а людзей усё меней і меней. Прычын шмат: гэта і алкаголь, і наркотыкі, і жыллё, але самае галоўнае — няма веры ў будучыню, няма ніякіх ідэалаў, бракуе патрыятызму, адсюль — нежаданне мець дзяцей, асабліва ў прадстаўнікоў сярэдняга класа і інтэлігенцыі. А калі наступяць кепскія часы, калі з усходу падзьме вецер аншлюсу і анексіі? Ці здолее тады аб'яднацца грамадства, каб абараніць сваю незалежнасць і тыя перавагі, якія ўжо ёсць?

(Заканчэнне на 2-й стар.)

ГАРАЧАЯ ТЭМА

# У Беларусі з'явіўся клантдайк

*Беларусь гатова пастаўляць харчаванне ў Расію замест краін, адносна якіх Масква ўводзіць санкцыі.*

***Такую заяву зрабіў першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанід Марыніч.***



*"Для нас гэта клондайк. Мы гатовы замяніць заходнія краіны па многіх пазіцыях у частцы харчавання",* — радасна паведаміў чыноўнік.

У расійскі спіс забароненых імпартных прадуктаў трапілі ялавічына, свініна, птушка, кілбасы, сыры і малочная прадукцыя, а таксама садавіна, гародніна і арэхі.

Леанід Марыніч выказаўся пакуль адносна толькі малочнай прадукцыі і садавіны. *"Павялічым выпуск па сырах рознай цвёрдасці і розных тэрмінаў выспявання",* — адзначыў ён. Таксама Беларусь гатова павялічыць пастаўкі мяса і неразведзенага малака замест Фінляндыі. Акрамя гэтага, беларускія аграрыі могуць рабіць дадатковыя пастаўкі агародніны. *"Заменім галандскую бульбу, заменім польскія яблыкі — у нас усё ёсць",* — запэўніў намеснік міністра.

БЕЗ РЭТУШЫ

*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

# Расія без саюзнікаў

## *І што трэба рабіць беларусам, каб не ўцягнула ў варонку*

Адно з апошніх паведамленняў: на чарговым пасяджэнні Савета Бяспекі ААН ніводная краіна не падтрымала Расію, якая сама ж тое пасяджэнне і склікала. Масква засталася ў адзіноце. Гэтая інфармацыя вельмі дакладна ілюструе неяк не заўважаную заяву Уладзіміра Пуціна на пазачарговым пасяджэнні Савета Бяспекі РФ 22 ліпеня: *"Расія, дзякуй богу, не ўваходзіць ні ў якія альянсы. У гэтым зарука нашага суверэнітэту. Любая краіна, якая ў альянсы ўваходзіць, адразу частку свайго суверэнітэту аддае".* Расійскі прэзідэнт меў на ўвазе не эканамічныя, а ваенна-палітычныя саюзы.

**Шмат для каго такая заява сталася нечаканай. Бо ўзнікае натуральнае пытанне: а як жа АДКБ?**

Але расійскаму кіраўніцтву цяпер не да палітэсу і палітказрэктнасці. Апынуўшыся ў складанай сітуацыі, Масква адкідвае ўсе медыйныя ідэалагемы і называе рэчы сваімі імёнамі. Гэтая заява азначае, што такі ваенна-палітычны альянс, як АДКБ, Расія не ўспрымае ўсур'ёз. Бо занадта малая палітычная вага гэтых расійскіх саюзнікаў. Пад сапраўднымі альянсамі Масква разумее хаўрусы з моцнымі дзяржавамі, найперш — еўрапейскімі.

Цягам усёй сваёй гісторыі Расія падчас значных ваенных канфліктаў амаль заўсёды мела саюзнікаў. Возьмем толькі апошнія 300 гадоў — з моманту, калі была створана Расійская імперыя. Падчас Паўночнай вайны (1700—1721 гг.) Расія ваявала з Швецыяй у саюзе з кааліцыяй паўночнаеўрапейскіх дзяржаў. Рэч Паспалітую яна дзяліла разам з Прусіяй і Аўстрыяй. Падчас напалеонаўскіх войнаў Расія ўваходзіла ў антыфранцузскую кааліцыю. У перыяд Першай сусветнай вайны існаваў блок Антанта, падчас Другой сусветнай вайны дзейнічала антыгітлераўская кааліцыя. На памяць прыходзіць толькі адзін канфлікт, у якім Расія апынулася без саюзнікаў, — Крымская вайна 1853—1856 гадоў. Якраз тую вайну яна і прайграла.

У другой палове XX стагоддзя, пасля вайны, СССР быў адной з дзвюх звышдзяржаў. Таму яму былі не патрэбны моцныя саюзнікі, ён меў шмат сатэлітаў, мог дазволіць сабе быць у канфлікце адначасова і з Захадам, і з Кітаем.

І вось цяпер Расія апынулася ў вострым канфлікце з Захадам без саюзнікаў, фактычна ў міжнароднай ізаляцыі. Што і вымушаны быў канстатаваць Пуцін. Хоць і зрабіўшы добрую міну пры дрэннай гульні. Маўляў, гэта на карысць. Насамрэч жа Масква адчувае сябе вельмі няўтульна і дыскамфортна.

Што ж да партнёраў Расіі па АДКБ, то Масква лічыць іх, папершае, слабымі. А па-другое, яны ненадзейныя. Ніхто з іх не падтрымаў публічна Расію ў яе канфлікце з Украінай. Хіба толькі Арменія — неяк квола. Беларусь і Арменія прагаласавалі ў Генеральнай асамблеі ААН у падтрымку Расіі. На гэтым фактычна і ўсё. Напярэдадні Дня Перамогі РФ паспрабавала правесці ў Маскве саміт АДКБ, каб прыняць заяву ў падтрымку расійскай пазіцыі. Хадзілі чуткі, што Расія хацела правесці рашэнне аб увядзенні на ўсход Украіны міратворчых сіл АДКБ. Але нічога з гэтага не атрымалася. Ніякіх заяў там прынята не было. А прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў у Маскву ўвогуле не прыехаў.

Вось публіцысты любяць пісаць, што сябры АДКБ — гэта сатэліты Расіі. Цяжка ўявіць, каб удзельнікі Арганізацыі Варшаўскай дамовы адмовіліся падтрымаць СССР у ягоных замежных авантурах кшталту афганскай ці выступалі з нейкімі заявамі ў процівагу Маскве. Вось гэта былі сатэліты. А цяпер саюзнікі Расіі такое сабе дазваляюць!

Як казаў расійскі імператар Аляксандр III, "у Расіі ёсць толькі два саюзнікі: армія і флот". Гэта якраз пра сённяшнюю РФ, якая робіць стаўку на голую ваенную сілу.

Для беларусаў, якія да гэтага часу былі цвёрда ўпэўнены, што знаходзяцца ў ваенна-палітычным альянсе з Расіяй, гэтае прызнанне Пуціна на Савеце Бяспекі дарагога вартае. Яно павінна было б стаць момантам ісціны і прасвятлення. То бок у цяжкі для сябе момант Масква не лічыць сябе звязанай ніякімі абавязацельствамі перад іншымі краінамі і думае толькі пра ўласныя інтарэсы. Кожны выплывае ў адзіночку. Таму і Беларусі трэба ні на каго не спадзявацца, а самой клапаціцца пра ўласную бяспеку ў эканамічнай, ваенна-палітычнай, інфармацыйнай сферах. І паціху адвяслоўваць ад гэтага "Тытаніка", які наткнуўся на рыф. Каб не ўцягнула ў варонку.

СУД!

## *Бандарэнку пагражае 5 гадоў калоніі*

*У судзе Кастрычніцкага раёна Мінска працягваецца судовае пасяджэнне па справе праваабаронцы* ***Андрэя Бандарэнкі.***

Учора дзяржабвінаваўца Аляксандр Бароўскі папрасіў суд прыгаварыць абвінавачанага ў хуліганстве праваабаронцу Андрэя Бандарэнку да шасці гадоў пазбаўлення волі, а са скарачэннем тэрміну пакарання на адзін год у адпаведнасці з амністыяй — да пяці гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Падчас спрэчак дзяржабвінаваўца нагадаў, што Бандарэнку інкрымінуюць тры эпізоды ўчынення злачынстваў.

Першы — інцыдэнт 5 лютага з Артурам Яворскім каля кафэ "Старадаўняя легенда" на вуліцы Чкалава ў Мінску, дзе, паводле версіі следства, Бандарэнка нанёс пацярпеламу як мінімум адзін удар у твар, прычыніўшы лёгкія цялесныя пашкоджанні, што не пацягнула кароткачасовага расстройства здароўя. Па гэтым эпізодзе Бандарэнка віну не прызнаў.

Другі эпізод — сварка 27 сакавіка ў пад'ездзе дома па вуліцы Чкалава, дзе жыве Бандарэнка. Размова ідзе пра канфлікт з суседкай Таццянай Радзівон. Зноў жа следства сцвярджае, што Бандарэнка ўдарыў Радзівон звязкай ключоў, выкарыстоўваючы ключы ў якасці прылады злачынства. Бандарэнка гэта адмаўляе.

Трэці — падзеі 27 сакавіка ў Кастрычніцкім РУУС Мінска, дзе Бандарэнка нагой спачатку выбіў тэлефон з рук Радзівон, якая фатаграфавала яго, а затым таксама нагой ударыў у твар маці Радзівон Наталлю Травулька. Цялесныя пашкоджанні таксама кваліфікаваны як лёгкія, што не пацягнулі кароткачасовага расстройства здароўя.

Дзяржабвінаваўца нагадаў, што ва ўсіх выпадках Бандарэнка быў у стане алкагольнага ап'янення, і заявіў, што ён дзейнічаў з хуліганскіх меркаванняў.

**БелаПАН.**

РУБАМ!

## *Ці павялічаць падатак на дададзеную вартасць?*

*Падатак на дададзеную вартасць (ПДВ), які фарміруе трэць бюджэтных паступленняў, з наступнага года ў Беларусі можа быць павялічаны з цяперашніх 20% да 22%. Ці пойдуць на гэты крок беларускія ўлады і як павелічэнне падатку адаб'ецца на людзях?*

Паводле інфармацыі БелаПАН, прапанова аб павелічэнні ПДВ унесена на разгляд урада, яна ўжо прысутнічае ў законапраекце аб унясенні змен у Падатковы кодэкс, якія могуць набыць моц з 2015 года.

Беларускія бізнес-саюзы лічаць, што павелічэнне ПДВ адмоўна адаб'ецца на эканамічнай прывабнасці Беларусі ў межах Мытнага саюза. У Расіі, якая ўваходзіць у Мытны саюз, стаўка такога падатку складае 18%, у Казахстане — 12%.

Дарэчы, разам з павелічэннем ПДВ прапаноўваецца ў 2015 годзе знізіць стаўку падатку на прыбытак з цяперашніх 18% да 15%.

Назіральнікі адзначаюць, што зніжэнне стаўкі падатку на прыбытак не кампенсуе прадпрыемствам наступствы, звязаныя з павелічэннем ПДВ.

*"Перадумова для павышэння падатку на дададзеную вартасць відавочная — жаданне збалансаваць бюджэт,* — адзначае фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі "Альпары" ў Мінску **Вадзім ІОСУБ**. — *І павышэнне стаўкі — самы надзейны спосаб для гэтага, бо плацяжы перакладваюцца на плечы канчатковага спажыўца. А ці павялічаць падатак? Гэта, напэўна, будзе залежаць ад таго, як выканаюць бюджэт у гэтым годзе. Думаю, пакуль ні кіраўнік краіны, ні ўрад не маюць дакладнага адказу на такое пытанне".*

Паводле слоў аналітыка, калі ПДВ усё ж такі павялічаць, то простыя беларусы адчуюць гэта на сабе.

*"Вырастуць кошты на ўсе тавары і паслугі, якія абкладаюцца падаткам на дададзеную вартасць,* — кажа эксперт. — *Гэта значыць, што падаражэе практычна ўсё".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛИЦ

# Вы серьезно относитесь к страхованию перед зарубежным отдыхом по путевке турфирм?

*За последние две недели семь туристических компаний России объявили о приостановке деятельности, о банкротстве. И тысячи и тысячи туристов, заплатив за отдых на море, оказались за границей без жилья и без обратного билета на самолет. Пострадали от банкротства российских туроператоров и белорусские туристы, которым, к счастью, удалось вернуться домой.*

*Как обезопасить себя от подобных ситуаций? Имеет ли смысл покупать более дорогую страховку? И стоит ли вообще серьезно относиться к страхованию перед поездкой на отдых за рубеж?*

**Ирина Лукашова, переводчица, бывший консультант турфирмы:**

— Стоит, и очень серьезно, потому что страхование у нас очень разное, в основном это страхование здоровья: руку сломал, ногу подвернул... Советую перед путешествием внимательнейшим образом читать страховой договор, потому что чаще всего страховщики не включают туда конкретные ситуации, когда по вине турфирмы человек остался без гостиницы или без обратного билета, как это случилось теперь в России. Да, есть строка о форс-мажоре. Но что под ним подразумевается конкретно? Политические забастовки, погодные условия? Все скользко и расплывчато. А надо выяснять заранее и требовать внесения конкретики отдельной строкой в полис. Потому что потом на суде турфирмы будут с вами биться в кровь, чтобы не заплатить вам ни копейки. И вы не сможете ничего доказать. Кстати, сейчас появились адвокаты, которые специализируются на разборках с турфирмами — тоже неплохо иметь их в виду.

**Александр Анисимов, главный дирижер Национального симфонического оркестра:**

— В отпуск я вообще езжу редко, тем более по путевке турфирмы, поэтому по поводу страхования у меня голова не болит. А когда гастроли, то это делается автоматически, без моего ведома. В общем, я еще не попадал в лапы мошенников, поэтому мне не было серьезного дела до страхования. Но теперь-то уделю этому вопросу внимание.

**Александр Балашевич, водопроводчик ЖЭСа №7 Советского района, Минск:**

— Я никогда за границу не ездил, по путевке тем более. Отдыхал раз в санатории в Беларуси, это было. Мы с семьей любим отечественный отдых. Ближе едешь, меньше тратишь, быстрее вернешься.



**Светлана Боровская, телеведущая:**

— К страхованию отношусь несерьезно, наверное, в силу своей романтичности. Отношусь к нему, как к детской истории, и не рассчитываю на компенсацию — разве это возможно в наших условиях? Однажды на море в Турции у меня заболело ухо, и я пошла к врачу. Его кабинет был идеально обставлен, и сам доктор был в очень красивом халате, и вообще все было похоже на спектакль. За прием в результате я заплатила 100 евро. Но когда дома я узнала, какой путь мне надо пройти, чтобы получить компенсацию в страховой компании, я решила, что мне легче эти деньги заработать на дополнительном концерте, чем ходить по инстанциям и собирать бумажки. Я безумная оптимистка, потому что ни на кого в жизни не рассчитываю.

**Анатолий Варавва, историк, экскурсовод:**

— Есть разное страхование: медицинское страхование необходимо, без него тебе визу не дадут. А страхование такой форс-мажорной ситуации, в которой оказались сейчас туристы из России, невозможно. Поверьте, у россиян есть на руках страховки на миллион долларов, но они им не помогут, потому что здесь дело темное. Мы, клиенты турфирм, в таких случаях совершенно беззащитны. Пошел обвал турфирм — дай Бог ноги унести. По-моему, это сделано специально: киты российского турбизнеса убирают конкурентов, хотят "упорядочить" рынок. Когда я ездил отдыхать за границу, выбирал солидных операторов. А теперь все больше по друзьям. Сейчас довериться никому нельзя — увидите, это еще не последние разорения.

**Елена МОЛОЧКО.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
8 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ВОСТРЫ ПОГЛЯД

# Як і 500 гадоў таму

## Беларусь зноў стаіць перад гістарычным выклікам. Як адкажам?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Па чалавечым патэнцыяле Беларусь займае 50-е месца ў свеце, згодна з рэйтынгам ААН, а па рэйтынгу сацыяльнага развіцця сёлета Беларусь заняла 58-е месца — першае сярод краін СНД. Напрыклад, багатая на энергарэсурсы Расія мае толькі 80-е месца. Захапіўшы Крым і падтрымаўшы вайну на Данбасе, Расія пастунова трапляе ў міжнародную ізаляцыю. Вядомы расійскі пісьменнік і дысідэнт Уладзімір Букоўскі лічыць, што ўкраінска-расійскі канфлікт скончыцца крахам пуцінскай сістэмы, бо Расія пастунова страціць еўрапейскія нафтагазавыя рынкі, кошт нафты ўпадзе і ў краіне адбудзецца крызіс. Таксама ўзнікнуць праблемы на Далёкім Усходзе. У такой сітуацыі беларусы ўжо не змогуць "схавацца ў бульбу" і жыць далей па прынцыпе "мая хата з краю". Усе мы зноў стаім перад гістарычным выклікам, як і 500 гадоў таму.

Нам зараз неабходна кансалідацыя ўсяго грамадства, шырокі дыялог паміж наменклатурай рознага ўзроўню, прадпрымальнікамі, інтэлектуаламі, фермерамі, прафсаюзамі і грамадзянскай супольнасцю.

Таму мы прапануем стварыць грамадскі Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць Беларусі, на якім можна было б правесці грамадскую дыскусію па наступных пытаннях:

**1.Прыватная ўласнасць на зямлю.** Узаконенае права кожнага грамадзяніна Беларусі атрымаць ва ўласнасць зямлю для яе апрацоўкі ці будаўніцтва за сімвалічную плату. Забарона продажу ці перадачы зямлі замежным грамадзянам без усялякага выключэння, акрамя абмену зямельнымі ўчасткамі паміж краінамі для будаўніцтва амбасад. Кожны грамадзянін можа стаць фермерам і атрымаць дзяржаўную падтрымку.

**2.Кардынальныя змены ў галіне медыцыны і адукацыі.** Заробак медыка і настаўніка павінен быць роўны заробку дзяржаўнага службоўца, вайскоўца ці міліцыянта. Пры гэтым колькасць дзяржаўных чыноўнікаў, вайскоўцаў і міліцыянтаў скарачаецца на 20—25%. Беларусь далучаецца да Балонскага працэсу, вяртаюцца акадэмічныя свабоды ва ўніверсітэты. Уводзіцца мараторый на будаўніцтва спартыўных аб'ектаў на 5 гадоў, а запланаваныя на гэта грошы ідуць на паліклінікі, бальніцы, фельчарскія пункты. У школы і ВНУ запрашаюцца і стымулююцца заробкамі мужчыны-настаўнікі і выкладчыкі.

**3.Грашовая рэформа.** Уводзіцца новая валюта, вядзецца змаганне з інфляцыяй, забараняюцца незваротныя крэдыты прадпрыемствам і калгасам.

**4.Вяртанне да Канстытуцыі 1994 года.** Правядзенне канстытуцыйнай рэформы на працягу пяці гадоў. Замацаванне выбарнасці ўсіх кіраўнікоў розных узроўняў на конкурснай аснове толькі на два тэрміны. Аднаўленне і замацаванне рэальнай шматпартыйнай сістэмы. Пераход да выбараў па партыйных спісах у органы ўлады ўсіх узроўняў.

**5.Адміністрацыйная рэформа.** Ліквідацыя абласцей і ўзбуйненне раёнаў (са 118 да 30—50 адзінак). Кожны раён пераходзіць на самазабеспячэнне, плануе мясцовы бюджэт для сваіх патрэб, адмяняецца сістэма дзяржаўнай датацыі. Двухузроўневая сістэма кіравання ў сучасных умовах будзе больш эканомнай і эфектыўнай.

**6.Выхад з міжнароднай ізаляцыі.** Вывад ваенных баз чужых дзяржаў з нашай тэрыторыі. Выхад з ваенных блокаў. Палітыка нейтралітэту і добрасуседства з усімі памежнымі краінамі.

**7.Новая культурная палітыка.** Выдзяленне на патрэбы культуры не менш за 3% ад гадавога бюджэту. Збалансаваная моўная палітыка, пераход да рэальнага двухмоўя. Дзяржаўная падтрымка беларускай культуры ва ўсіх яе праявах. Развіццё турызму і падтрымка беларускай дыяспары. Увядзенне "карткі беларуса" для суайчыннікаў за мяжой.

Вядома, пералік пытанняў можа быць і іншы, і гэта вырашаць дэлегаты будучага Кангрэса.

Нельга не пагадзіцца з думкай Аляксандра Мілінкевіча, які лічыць, што *"на выбарах 2015 года павінна адбыцца змена пакаленняў у апазіцыі. Патрэбна новая кроў, новая энергія, новае мысленне".* На нашу думку, такіх людзей мы можам пачуць і пабачыць на Кангрэсе. Нехта з іх можа стаць і агульнанацыянальным лідарам, верагодным кандыдатам у будучыя прэзідэнты. Цалкам магчыма, што гэта будзе жанчына. Бо чаму нам не ўзяць прыклад з Літвы ці Германіі? Такія жанчыны ёсць і ў нас. Кангрэс дапаможа выявіць і іх.

Сённяшняя ўлада за 20 гадоў збудавала постсавецкую Беларусь, наступнае пакаленне хоча мець беларускую Беларусь, пра якую марылі лепшыя сыны і дочкі Бацькаўшчыны.

Мы хацелі б пачуць думкі чытачоў "Народнай Волі" на гэтую тэму. Наша эл. пошта: siadziba@gmail.com з пазнакай *"Водгук на артыкул"*.

### Віншуем, Алег Анатольевіч!



Учора знаны дзеяч Нацыянальнага Адраджэння, старшыня Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" **Алег Трусаў** прымаў віншаванні шматлікіх сяброў з нагоды свайго 60-гадовага юбілею.

Калектыў "Народнай Волі" і яе чытачы далучаюцца да гэтых віншаванняў і сардэчна вітаюць Алега Анатольевіча з адметнай вехай у ягоным жыцці, зычаць добрага здароўя, нязменнай творчай энергіі і багатага плёну ў далейшай навуковай і грамадскай працы дзеля будучыні Беларусі.

СТОЛИЦА

## Реконструкция Национального аэропорта Минск завершится в этом году

Об этом сообщил сегодня журналистам министр архитектуры и строительства **Анатолий Черный.** *"Будет пристроен еще один зал вылета, приведем в порядок все остальные залы",* — отметил министр. По его словам, на объекте сложно проводить строительные работы, так как модернизация проходит в здании действующего аэропорта. *"Но я уверен, что, несмотря на эти трудности, все работы будут завершены в срок и к 1 января 2015 года модернизация будет выполнена",* — подчеркнул Анатолий Черный.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Хто за новенькага?

*26 жніўня будзе абраны новы старшыня Федэрацыі хакея Беларусі.*

Кандыдатаў на гэтую пасаду можна вылучаць да 21 жніўня, але ніхто не імкнецца атрымаць такое "шчасце". Хакей у краіне стаў стратэгічным відам спорту, знаходзіцца пад пастаянным кантролем зверху, а таму, акрамя Дзевятоўскага, жадаючых добраахвотна лезці ў пастку не назіраецца.

Так што на гэты момант кандыдатам на крэсла кіраўніка хакейнай федэрацыі значыцца адзін Вадзім Дзевятоўскі. Былы кідальнік молата, а зараз — дэпутат. А як фарміруецца так званая Палата прадстаўнікоў — усім вядома.

**Алесь СІВЫ.**

НЕДВИЖИМОСТЬ

# По какой цене в Беларуси строится жилье?

***На днях на сайте БЕЛТА прошла онлайн-конференция с первым заместителем министра архитектуры и строительства Александром КРУЧАНОВЫМ.***

***Наиболее интересные вопросы и ответы чиновника предлагаем читателям "Народной Воли".***

### Квадратный метр в «панельке» стоит меньше 600 долларов

**— Сколько стоит сейчас построить квадратный метр для очередников в типовом панельном доме в Минске и, например, в Мозыре? Если цены отличаются, то чем это объясняется?**

— Средневзвешенная стоимость 1 кв.м общей площади квартир типовых потребительских качеств жилых домов, введенных во втором квартале 2014 года, составила: крупнопанельных жилых домов — 6365,3 тыс. рублей с учетом отделочных работ, 5708,3 тыс. без учета отделочных работ; жилых домов из кирпича и газосиликатных блоков — соответственно 8308,9 тыс. и 7324,7 тыс.; жилых домов других конструктивных схем — 7921,7 тыс. и 7068,5 тыс.; жилых домов всех конструктивных схем — 7418,7 тыс. с отделкой и 6598,8 тыс. без отделки. Средневзвешенная стоимость 1 кв.м общей площади квартир жилых домов, введенных во втором квартале текущего года, была сформирована с учетом стоимости 1 кв.м так называемых проблемных жилых домов со сверхнормативными сроками строительства, которая значительно ниже стоимости 1 кв.м жилых домов, введенных в эксплуатацию вовремя.

В целях снижения стоимости строительства жилого дома для граждан, имеющих право на льготный кредит, подписан указ №270 "О реализации программ государственного заказа на строительство жилья" (от 6 июня 2014 года). Согласно этому документу, в порядке эксперимента в 2014—2016 годах по перечню жилых домов, включенных в программы государственного заказа, для определения стоимости строительства и размера кредита будет использоваться стоимость 1 кв.м общей площади жилого дома, равная прогнозному показателю номинальной начисленной среднемесячной заработной платы работников на месяц приемки дома в эксплуатацию, установленному с учетом нормативной продолжительности строительства, определенной проектной документацией, с применением коэффициента 1,2.

### Генпланы городов-спутников разработают только в следующем году

**— В Беларуси планируется активно развивать города-спутники. Если я, будучи нуждающимся в улучшении жилищных условий, соглашусь на строительство жилья именно в таком городе, а не в столице, могу ли я рассчитывать на получение льготного кредита?**

— Льготные кредиты при строительстве жилья в городах-спутниках будут предоставляться в обязательном порядке гражданам, имеющим в соответствии с законодательством право на такой кредит. Указом №13 предусмотрено, что тем, кто предполагает строить жилье в городах-спутниках, кредиты предоставляются сроком на 20 лет. Проценты за пользование этими кредитами составят 10% ставки рефинансирования Национального банка, действующей на дату утверждения списков, но не менее 3% годовых. Например, сегодня это 3%.

**— Когда все-таки начнется настоящая работа по строительству жилья в городах-спутниках?**

— С 10 августа 2014 года вступает в силу указ №214 "О развитии городов-спутников". Он разработан в целях обеспечения комплексности развития административно-территориальных единиц, создания дополнительных условий для увеличения объемов жилищного строительства, сбалансированного развития населенных пунктов, их социальной, производственной, транспортной и инженерной инфраструктуры.

Указом предусмотрено придание статуса города-спутника Минска Дзержинску, Заславлю, Логойску, Смолевичам, Фаниполю и городскому поселку Руденск. Статус города-спутника Гродно получил Скидель, а Бреста — Жабинка.

До 1 марта 2015 года Минстройархитектуры, Мингорисполком и Миноблисполком должны обеспечить разработку генеральных планов городов-спутников. До 30 декабря следующего года Совет министров должен представить документы на утверждение президента.

### Заместители министра продолжат контроль

**— Вопрос с проблемными домами решен, все запланированные к вводу до 1 июля дома сданы в эксплуатацию, и решить эту задачу удалось в том числе благодаря постоянному и достаточно жесткому контролю со стороны министерства. Планируется ли продолжить эту работу?**

— Работа по контролю за сроками ввода домов продолжается, мы ее не останавливали. Но отмечу, что Минск и Минская область — это регионы, где традиционно выполняются большие объемы строительных работ, поэтому там еще остаются 7 домов. В настоящее время строительство этих объектов продолжается, никаких проблем не возникает, думаю, что все они будут введены в запланированные сроки. Что касается контроля непосредственно в Минстройархитектуры, то заместители министра были закреплены за регионами и персонально отвечали за ввод жилья в той или иной области. Такая практика сохранится. Думаю, что система по контролю за сроками ввода домов даст результат и позволит избежать затягивания сроков.

К СЛОВУ

### Продажи квартир сократились на четверть

По данным Национального кадастрового агентства, в первом полугодии 2014 года по сравнению с аналогичным периодом прошлого года количество сделок с квартирами сократилось почти на 25%, тогда как объем предлагаемых на рынке квартир вырос более чем на 40%. При этом средняя стоимость 1 кв.м в Минске в квартирах стандартных потребительских качеств снизилась всего на 17 долларов и составила 1545 долларов за квадратный метр.

КАРЦІНА ДНЯ

### Першакурснікаў-платнікаў у дзяржаўных ВНУ больш, чым бюджэтнікаў

У Міністэрстве адукацыі падвялі вынікі сёлетняй уступнай кампаніі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны. Як высветлілася, у гэтым годзе ў ВНУ прыйшло вучыцца каля 55 тысяч чалавек, з іх за кошт сродкаў бюджэту — 27,2 тысячы. Плаціць за сваю адукацыю будуць 28 тысяч першакурснікаў.

Самымі рэйтынгавымі спецыяльнасцямі ў гэтым годзе сталі "бізнес-адміністраванне" (370 балаў, БДУ), "сусветная эканоміка" (371 бал, БДУ), "інфарматыка і тэхналогіі праграміравання" (366 балаў, БДУІР), "стаматалогія" (360 балаў, БДМУ), "лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурных камунікацый" (354 балы, МДЛУ).

ЦЕНЫ

# Новые машины в Беларуси подорожают

*"Спасибо" автолюбители должны сказать очередному президентскому указу.*



Новый Указ №361 "Об отдельных вопросах налогообложения, бухгалтерского учета, переоценки имущества и взимания арендной платы" коснется импортных товаров, которые ввозятся в Беларусь в неизмененном состоянии. Это в том числе и новые автомобили, на которые прогнозируется рост цен.

*"Рост цен у отечественных дилеров станет следствием изъятия в бюджет страны на 90 дней оборотного капитала в размере "ввозного" налога на добавленную стоимость для организаций, импортирующих и реализующих товары в неизменном состоянии,* — сообщил в своем блоге заместитель председателя Белорусской автомобильной ассоциации **Сергей ВАРИВОДА**. — *А это, ни много ни мало, 20% от таможенной стоимости, увеличенной на сумму таможенной пошлины. По моим расчетам, для автомобилей бюджетного сегмента, наиболее востребованного в стране, увеличение затрат дилера (читай — розничных цен для покупателей) составит 1—1,5%, а для дешевых автомобилей с большим объемом двигателя — до 2%".*

Эксперт отмечает, что за "баловство" чиновников опять заплатит покупатель. Или не заплатит, а вывезет валюту в другие страны.

*"Разработчики указа №361 даже не удосужились ознакомить с его проектом ни Совет по развитию предпринимательства, ни отдельные бизнес-союзы,* — продолжает Варивода. — *А если бы посоветовались с бизнесом, с Белорусской автомобильной ассоциацией, то им стало бы ясно, что данная норма несвоевременна и неэффективна. Если такими решениями пытаются ограничить импорт в страну, то делать это надо было гораздо раньше. Ведь подавляющее большинство дилеров уже разместили "твердые" заказы на поставку автомобилей до конца года, от которых крайне сложно отказаться. И кто возьмется подсчитать, какое количество сделок "уплывет" из белорусских автосалонов в российские? На какую сумму снизятся отчисления в бюджет торгующих, обслуживающих, финансирующих, страхующих, ремонтирующих, сертифицирующих новые автомобили отечественных субъектов хозяйствования?.. Часто приходится слышать упреки в адрес белорусских дилеров: мол, "зажирели" и цены у них высокие. Да потому и высокие, что все чудеса законотворчества в эту цену включены. А за чудеса надо платить. Не за себя обидно. За державу. Неужели по-другому управлять экономикой так и не научились?"*

**Алесь СИВЫЙ.**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# Беларусам трэба пазбавіцца ад агрэсіўнага прапагандысцкага ўплыву Расіі



***Беларускія тэлегледачы прызвычаіліся бачыць свет праз прызму інтарэсаў Крамля. Як стварыць уласныя якасныя сродкі масавай інфармацыі, якія будуць дзейнічаць у адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі, — пра гэта разважае намеснік старшыні ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Андрэй БАСТУНЕЦ.***

— **Сярод прапаноў, якія разглядаў Форум палітычнай апазіцыі і грамадскай супольнасці ў рамках праекта "Рэфорум", былі рэформа пенсіённай сістэмы, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і стварэнне зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам. Аднак у выніку абралі два накірункі — рэформы** сістэмы адукацыі **і медыясферы. Чаму менавіта іх?**

— Рэформа СМІ гучала таксама і сярод прапаноў па змене выбарчага заканадаўства. Такім чынам, з шасці прыярытэтных накірункаў, якія розныя суб'екты Форуму называлі, СМІ былі вызначаны двойчы.

І гэта цалкам слушна.

Бо свабода выказвання не толькі адносіцца да базавых правоў і свабод чалавека, але і з'яўляецца крытэрыем выканання ўсіх іншых правоў.

Па-другое, падзеі, якія адбываюцца ва Украіне, даказваюць неабходнасць рэформы медыясферы дзеля незалежнасці краіны. Бо вынікі сацыялагічных даследаванняў паказваюць, што мы дагэтуль знаходзімся ў інфармацыйнай прасторы іншай дзяржавы. (Перш за ўсё я маю на ўвазе тэлебачанне, якое аказвае найбольшы ўплыў на насельніцтва.) На жаль, высветлілася, што новыя тэхналогіі і інтэрнэт тут і цяпер не могуць змяніць сітуацыю, што беларускія тэлегледачы прызвычаіліся бачыць свет праз прызму інтарэсаў Крамля, а наша дзяржаўнае тэлебачанне ці то не можа, ці то не хоча з гэтым нешта рабіць.

Такім чынам, відавочнымі з'яўляюцца дзве сур'ёзныя праблемы: пазбавіцца ад агрэсіўнага прапагандысцкага ўплыву суседняй дзяржавы і стварыць уласныя якасныя сродкі масавай інфармацыі, якія будуць дзейнічаць у адпаведнасці з дэмакратычнымі стандартамі, а не выкарыстоўвацца як прылада інфармацыйнай вайны ці "агітацыі і прапаганды".

Мяркую, што ўсё пералічанае і паўплывала на рашэнне Форуму.

**— Наколькі я ведаю, шмат распрацовак па рэформе медыясферы было зроблена ў апошнія гады Беларускай асацыяцыяй журналістаў. Таму, відаць, экспертам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (Вільнюс) будзе што пакласці ў падмурак сваёй канцэпцыі?**

— Яшчэ напрыканцы 1990-х — на пачатку 2000-х гадоў мы распрацавалі канцэпцыю рэформы СМІ, а таксама сістэм друку і распаўсюджвання СМІ і канцэпцыю грамадскага тэлебачання. І потым неаднаразова звярталіся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і іншых дзяржаўных органаў з просьбай абмеркаваць нашы прапановы па ўдасканаленні заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі...

Але "медыясфера" ўсё ж такі больш шырокае паняцце, чым "СМІ". Напрыклад, сёння пра яе нельга гаварыць, пакідаючы па-за ўвагай інтэрнэт. Да таго ж прайшоў пэўны час, і нейкія рэчы, пра якія мы казалі, састарэлі. Таму ўсё гэта ў любым выпадку трэба пераглядаць і перапрацоўваць. У тым ліку — з дапамогай замежных экспертаў. Мы, БАЖ, з імі таксама супрацоўнічалі і працягваем супрацоўніцтва, але ж, магчыма, BISS зможа прыцягнуць да работы і іншых спецыялістаў, стварыць "дадатковую вартасць".

**— Аднак неабходна не толькі распрацаваць добрую канцэпцыю, але і зрабіць так, каб на яе звярнулі ўвагу тыя, хто прымае рашэнні. То бок улады. Толькі тады можна ажыццявіць рэформу. Наколькі магчыма сёння зацікавіць такімі прапановамі беларускія ўлады?**

— Я ў гэтым пытанні не вялікі аптыміст. Сапраўды, у рэформе медыясферы, як, уласна кажучы, і ў іншых накірунках, усё залежыць ад палітычнай волі. А яе ў тых, хто кіруе краінай, пакуль не заўважана.

Нельга казаць, што зусім нічога не адбываецца. Напрыклад, у 2008 годзе, калі прымаўся Закон аб сродках масавай інфармацыі, некаторыя заўвагі БАЖ былі ўлічаны. Але ж, з іншага боку, мы наогул былі супраць прыняцця гэтага закона ў такім выглядзе.

Існуюць сёння кантакты ўлады з прадстаўніком АБСЕ па пытаннях свабоды сродкаў масавай інфармацыі. БАЖ спрабуе размаўляць з прадстаўнікамі МУС... Але зноў такі вынікі гэтых кантактаў і размоў не такія, як мы хацелі б. Паглядзім, як сітуацыя будзе мяняцца надалей. Калі наогул будзе мяняцца.

Тым не менш, калі пакет дакументаў па рэформе медыясферы будзе распрацаваны, ён можа быць запатрабаваны пры змене сітуацыі — калі адчыніцца "акно магчымасцяў".

**— Ну, калі да таго часу і гэты пакет прапаноў не састарэе...**

— Ніхто не ведае, як сітуацыя будзе складвацца надалей. Магчыма, у нашага ўрада палітычная воля да змен з'явіцца нават хутчэй, чым мы спадзяёмся.

**— Незразумела, чаго яшчэ чакаць. Мы сёння бачым, як тое ж Беларускае тэлебачанне выкарыстоўваецца суседняй дзяржавай у якасці інфармацыйнай зброі.**

— Мяркую, што гэта ўжо ўплывае на становішча. І, спадзяюся, робяцца пэўныя высновы тымі, хто мусіць іх рабіць.

**— Некаторыя эксперты мяркуюць, што на беларускую ўладу могуць паўплываць і прадстаўнікі Еўрасаюза. Праект "Рэфорум" — гэта ўсё ж такі працяг "Дыялогу аб мадэрнізацыі Беларусі" і рэалізуецца з дапамогай Еўрасаюза.**

— Раз-пораз беларускія ўлады выказваюць зацікаўленасць у кантактах з Еўрасаюзам. Неаднаразова з боку ўлад гучалі словы, што ляцець на адным крыле нельга, што трэба развіваць і ўсходні, і заходні вектары. Але сёння мы бачым хутчэй "дыялог аб дыялогу" з Еўропай, чым сапраўднае супрацоўніцтва. Магчыма, эканамічная і палітычная сітуацыя ў краіне зменіцца. Тады дапамога Еўрасаюза будзе больш запатрабаваная. Але пакуль, нават у рамках "Рэфоруму", наколькі я ведаю, улады не асабліва імкнуцца да супрацоўніцтва.

**— Калісьці мы з вамі размаўлялі наконт рэформы медыя. Тады вы казалі, што дзяржава наогул не павінна ўмешвацца ў працу СМІ. Напрыклад, не патрэбна краіне Міністэрства інфармацыі. І дзяржаўных медыя не павінна быць. Я чаму нагадаў: усё ж такі Форум палітычнай апазіцыі і грамадскай супольнасці — замоўца распрацоўкі. Эксперты BISS — выканаўцы. Наколькі радыкальную канцэпцыю рэформаў замаўляў Форум?**

— Так пытанне не ставілася. Сапраўды, Форум — замоўца. Але патрабаванняў да канцэпцыі мы не выказвалі. Пакуль толькі былі акрэслены першыя накірункі, па якіх эксперты будуць працаваць у рамках праекта "Рэфорум".

Спадзяюся, што напрацоўкі БАЖ будуць запатрабаваны. Але якім будзе праект рэформаў, наколькі ён будзе адпавядаць нашым чаканням, мы пабачым, калі пачнецца — а, дакладней, скончыцца — праца над ім. Усё ж такі галоўную ролю ў распрацоўцы будзе адыгрываць BISS .

**— Ну вось распрацавалі праект рэформаў — добра: дакладная, абгрунтаваная і цікавая папера атрымалася. А што з ёй рабіць?**

— Наступны крок — лабіраванне гэтай канцэпцыі, у тым ліку і з дапамогай еўрапейскіх структур. Гэтыя канцэпцыі могуць стаць прадметам дыскусіі паміж прадстаўнікамі беларускай улады і Еўрасаюза. Ну і, зразумела, гэтую канцэпцыю трэба даносіць да грамадства, бо ніякія змены немагчымы без яго.

**Мікалай АНІШЧУК.**

КАРУПЦЫЯ

## Чарговы чыноўнік асуджаны за хабар

*Экс-намеснік старшыні Барысаўскага райвыканкама **Сяргей Лагно** прызнаны вінаватым у атрыманні хабараў і перавышэнні службовых паўнамоцтваў.*

Ён асуджаны на 9 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-выканаўчых абавязкаў, тэрмінам на пяць гадоў.

У сувязі з амністыяй да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Лагно часткова вызвалены ад пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на адзін год. У даход дзяржавы з яго спагнана 146 мільёнаў 671 тысяча рублёў неабгрунтавана атрыманай выгады, а таксама больш за 7 мільёнаў дзяржаўнай мыты. Агулам гэта каля 15 тысяч долараў.

